# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 20 (638) ГОД XIII 19 МАЯ 1968 г. ЦАНА 60 гр.




## РОДНАЯ МОВА

Як самую звонкую ў свеце навуку,
Як ройных вякоў пчаліную складчыну,
Прымаю па складу, па смаку, па гуку
Мову маю матчыну!

З калыскі, ад першага лепету «мама»,
Які акрыліў жаўтароціка-хлопчыка,
Да грамавога «ура», што ўзнімала
Мяне ў штыкавую атаку з акопчыка.

Пароль неўміручасці — родная мова.
Рассуньцеся, часу перагародкі:
Вядуць, як суседзі праз вокны, размову
Учора і Заўтра, патомкі і продкі...

Мы ці нямыя вякамі мычалі?
Струны ржавелі без пальцаў музыкі.
Нібы ўзрыўчатку, запасіў маўчанне
Род мой,
Народ мой,
Набат без'языкі.

Мову маю, як праўду, падноскамі
На плошчах парадна глушылі,
Душылі
Пятлёй зацяжною, што Каліноўскаму
Вужакаю падступіла да шыі.

Таму не стамлюся славіць, як сонца, я
Цябе, рэвалюцыя, што назаўсёды
Адчыніла, як кінастужку бясконцую,
Гісторыю збуджаных воляй народаў.

Ты ў нетрах маёй беларускай старонкі
Залежы музыкі адкапала,
Каб з сэрца, нібы з невычэрпнай скарбонкі,
Высыпаў песні народу Купала.



Мы слова прыгубілі, як крыніцу,
Што камень маўчання прабіла са звонам,
Пілі, як паветра пасля навальніцы,
Прапахлае сонейкам і азонам...

Ды рынулі браніраваныя вусені
На край мой, нібыта на ліст кляновы.
Але прыслухацца іх прымусілі
Мы да сваёй выбуховае мовы.

Трэсліся, быццам ад землетрасення,
Гвалтоўныя сейбіты сталі рурскай
Ад партызанскага вымаўлення
Грымотнай мовы маёй беларускай!

І мінамётамі, і гарматамі
Краіна мая, што ад гневу бурліла,
Па грозных законах ваеннай граматыкі
Чужынцаў скланяла аж да Берліна...

Нас дзеці і ўнукі паўтораць нанова —
Народы не спісваюцца на пенсію.
Ты будзеш звінець, мая родная мова,
Як слова, якое не выкінуць з песні!

Пятрусь Макаль



Мікалай Шчарбінскі — аператар, сакратар ПОП.

## Фабрыка ў Страблі

Калісьці тут быў тартак. Месца дасканалае таму, што праз **Страблю** праплывае рака Нарва, якою раней сплаўлялі лес. Аднак ад гэтых часоў многа змянілася. Ужо ніхто Нарваю не сплаўляе лесу і тартак стаўся непатрэбным. У патартачных памяшканнях пачалі вырабляць «пустакі», але паколькі і на іх не было збыту, і гэтую прадукцыю трэба было пакінуць. Зрэшты, зараз ідуць намаганні, каб прадукцыяй «пустакаў» занялiся ГС і сельгасгурткі. Тартак у Страблі пераўтворана ў прадукцыйнае прадпрыемства будаўляных матэрыялаў у асноўным для патрэб вясковага будаўніцтва.

Прадукаваныя ў Страблі будаўляныя элементы высылаюцца і ў іншыя ваяводствы, а перш за ўсё у Люблінскае і Познанскае. Агульна трэба сказаць, што запатрабаванне многа большае, чым прадукцыйныя магчымасці прадпрыемства.

Чатыры гады таму тут усё рабілася ўручную. Каб увесці якую-небудзь механізацыю, трэба было пабудаваць новыя памяшканні. Іменна ад 1964 года распачалася тут пабудова новага завода. У тэтым годзе — заканчэнне. 46-асабовы калектыў рабочых, якія выводзяцца перш за ўсё з навакольных вёсак, тэксама трэба было падрыхтаваць да абслугі машын і прылад, якія атрымоўвала фабрыка. І гэта зроблена на рознага тыпу курсах. Добрая арганізацыя працы і самаахвярнасць рабочага калектыву даюць тое, што кожны месяц перавыпаўняюцца планы на 100—300 тыс. зл. У сувязі з тым рабочыя кожны год атрымліваюць прэміі і наогул іх месячныя заработкі высокія, напрыклад, у сакавіку сягалі 2600 зл.

Ва ўказаных вышэй дасягненнях істотную ролю адыгрывае **14-асабовая партыйная арганізацыя.** Арганізуе яна часта адкрытыя сходы, дзе абмяркоўваюцца найактуальнейшыя палітычныя і гаспадарчыя справы. Вельмі часта на парадку дня стаяць тут справы ашчаднасці матэрыялаў і адпаведнага выкарыстання рабочых. Прапановы партарганізацыі вельмі хутка ўводзіць у чын дырэкцыя. З ініцыятывы партыйнай арганізацыі было прынята абавязацельства ўгонар V з'езда ПАРП. Усяму гэтаму даюць падставу людзі такія, як бетоншчык **Яўген Шчарбінскі,** член

(Працяг на стар. 4)

Від на фабрыку ў Страблі.



## ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ЛІТАРАТУРА

Хто яе чытае, колькі, чым найбольш цікавіцца чытач і г.д.? Цэлы комплекс пытанняў звязаны з чытальніцтвам грамадска-палітычнай літаратуры сярод нацыянальных меншасцей Беласточчыны быў тэмай асобнай сесіі Нацыянальнай камісіі Ваяводскага камітэта партыі ў Беластоку.

Вобраз найбольш шырокі дае гэтае пытанне ў прымяненні да беларусаў, якіх на Беласточчыне найбольш. і

**Як беларусы чытаюць грамадска-палітычную літаратуру?**

Хочучы адказаць на пытанне, трэба прыпомніць пэўныя факты:

1. Беларусы палітыкай цікавяцца і цікавіліся.
2. Грамадска-палітычная літаратура даступна беларусам амаль выключна на польскай мове.
3. Бібліятэкі не так зноў даўно пачалі гэтую літаратуру купляць і папулярызаваць.

У бібліятэках яе зараз 5% агульнага кнігазбору. Некаторыя творы з тэтай літаратуры, якія і раней былі ў бібліятэках, масавага чытача не прыцягвалі. Зараз гэтыя пазіцыі, проста як здэактуалізаваныя, выведзена з бібліятэк і на іх месца прыйшлі апрацаванні новыя, цікавыя. Кніжак грамадска-палітычных выдадзеных пасля 1960 года ў даследваных 12 бібліятэках у беларускім асяроддзі 73% кнігазбору з галіны грамадска-палітычнай.

Звяртаемся да пытання: як беларусы чытаюць грамадска-палітычную, літаратуру?

Доследы былі праведзены ў дванаццаці бібліятэках: Гарадку і Міхалове ў Беластоцкім павеце, Галадах і Рыбалах у Бельскім павеце, Клейніках і Кляшчэлях у Гайнаўскім павеце, Нурцы, Мілейчыцах і Тымянцы ў Сямяціцкім павеце, Бабіках і Шудзялаве ў Сакольскім павеце.

Вобраз, які атрымліваецца з гэтых мясцовасцей, напэўна з'яўляецца тыповым для агулу мясцовасцей з беларускім насельніцтвам.

**Які ж ён, вобраз?**

З 3.685 чытачоў вышэй пададзеных бібліятэк грамадска-палітычную літаратуру чытае 622 асобы (16,9%). Найбольш чытаюць яе ў Клейніках (37,7%), у Тымянцы (26,3%). Найменш у Мілейчыцах (5,5%), Клюковічах (7,7%).

Найбольш грамадска-палітычнай літаратурай цікавяцца настаўнікі (59,3%) — настаўнікаў — чытачоў бібліятэк. У Гарадку і Клейніках 100% настаўнікаў чытае грамадска-палітычную літаратуру. У Мілейчыцах, Шудзялаве ніводзін настаўнік яе не чытае.

Сярод сялян 12,3% чытачоў чытае грамадска-палітычную літаратуру, а ў паасобных вёсках выглядае гэта так: у Шудзялаве — 42,2%, сялян чытае, у Клейніках — 36%, у Кляшчэлях — 3,6%. У Мілейчыцах і Клюковічах сяляне ўвогуле не чытаюць грамадска-палітычнай літаратуры.

Толькі 10% школьнай моладзі чытае грамадска-палітычную літаратуру.

У павятовых бібліятэках у Бельску і Гайнаўцы гэтую літаратуру чытае 17,5% чытачоў, больш у Гайнаўцы.

**Ваяводская бібліятэка ў Беластоку аўтарытэтна сцвярджае: «у беларускім асяроддзі параўнальна высокі працэнт чытачоў сягае па грамадска-палітычную літаратуру. Асабліва варты падкрэслення факт, што сяляне — гаспадары чытаюць гэтую літаратуру. Назіраючы праблему ад некалькіх год,**

(Працяг на стар. 5)

Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### РАЗМОВЫ Ў ПАРЫЖЫ

Распачатыя размовы між прадстаўнікамі ЗША і ДРВ у **Парыжы** некаторыя называюць найвялікшым палітычным здарэннем пасля II сусветнай вайны. Пакуль што цяжка пацвердзіць поўнасцю гэтае сцверджанне таму, што аб гэтым вырашаць самыя размовы.

Афіцыяльнай тэмай парыжскіх размоў з'яўляецца поўнае і безагаворачнае ўстрыманне налётаў і іншых ваенных дзеянняў супраць ДРВ. Гаворыцца ў свеце аб вайне ЗША супраць ДРВ, якую вядуць Злучаныя Штаты ад трох год, міма, што фармальна ЗША не знаходзяцца ў стане вайны з Дэмакратычнай Рэспублікай В'етнама.

Агульна сцвярджаецца, што калі ЗША выкажуць добрую волю і шчырасць, размовы могуць быць пашыраны на іншыя «мірныя тэмы». Могуць, напрыклад, дыскутаваць аб справах Паўднёвага В'етнама і ўдзелу ў размовах Фронту нацыянальнага вызвалення, а таксама сайгонскіх марыянетак. Штоправда генерал Т'е, знаходзячыся толькі 2 кіламетры ад партызанскіх баёў у Сайгоне, заявіў нядаўна, што не будзе гаварыць з ФНВ. І можа меў рацыю, бо хто ж можа гарантаваць, што, калі дойдзе да такіх перагавораў, Т'е не прызямліцца ў Партугаліі або ў ЗША, як выкладчык аднаго з універсітэтаў?

На каментарыі аб першых размовах у Парыжы трэба пачакаць. Адно, што можна сцвердзіць, гэта тое, што да перагавораў пхнула амерыканцаў не літасць над ахвярамі В'етнама, не здаровы розум, але змаганне народа — студзеньскае наступленне партызан.

### САЛІДАРНАСЦЬ І АДЗІНСТВА

У Маскве адбыўся ўрачысты сход прысвечаны 150 гадавіне з дня нараджэння Карла Маркса. Член Палітбюро М. Суслоў у дакладзе, між іншым, сказаў:

**«Салідарнасць і адзінства камуністычных партый у асноўных рашаючых справах прынамсі не выключае разнастайнасці ў палітычных і тактычных канцэпцыях, разнагалоссі ў поглядах і ацэнках. Заснавальнікі навуковага камунізма перасцерагалі перад небяспекай скрыўлення прынцыпаў інтэрнацыяналізма, перад спробамі накідвання праз адны партыі свайго пункту гледжання іншым партыям. Згодна з прынцыпамі інтэрнацыяналізма, якія пераказалі ў запавеце стваральнікі марксізма, нормай узаемных адносін між камуністычнымі партыямі, ёсць поўная дэмакратыя, раўнапраўнасць і ўзаемнае пашанаванне для сваіх поглядаў».**

### НЕДАСТАТАК?

Згодна з данымі Ватыкана ва ўсім свеце паменшваецца лік кандыдатаў духоўнага стану ў каталіцкім касцеле. У заходняй Еўропе на працягу дзесяці мінулых год колькасць заявак да «свецкіх» духоўных семінарыяў паменшылася на 40%, да мужчынскіх манастыроў — на 60%, а да жаночых — на 10—15%.

А. К.

## БССР

### ПЕРШАМАЙ

З вялікім размахам адбылося першамайскае свята ў беларускай сталіцы, яшчэ большую ўрачыстасць прыдавала яму атмасфера падрыхтоўкі да 50-годдзя БССР і Кампартыі Беларусі.

На Цэнтральнай трыбуне кіраўнікі Беларусі на чале з першым сакратаром ЦК КП Беларусі, **П. Машэравым,** і старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, **С. Прытыцкім.** З вялікай прамовай выступіў камандуючы войскамі Чырвонасцяжнай Беларускай ваеннай акругі генерал-палкоўнік **І. Трацяк.** Затым аркестр выканаў дзяржаўныя гімны Савецкага Саюза і БССР.

Ваенны парад адкрылі калоны афіцэраў штаба Беларускай ваеннай акругі, слухачы Мінскага вышэйшага інжынернага радыётэхнічнага вучылішча. Паказана навейшае ракетнае ўзбраенне.

### 150-ГОДДЗЕ

Споўнілася 150 гадоў з дня нараджэння Карла Маркса. 5-га мая ў Беларускім дзяржаўным тэатры оперы і балету адбыўся ўрачысты сход прадстаўнікоў працоўных беларускай сталіцы, прысвечаны гэтай знамянальнай гадавіне. У сходзе прынялі ўдзел кіраўнікі Беларусі. З дакладам аб 150-годдзі з дня нараджэння Карла Маркса выступіў сакратар ЦК КПБ **Ф. Сурганаў.**

### ГОСЦІ

У Мінску пабывала група прадстаўнікоў прафсаюзных арганізацый Гамбіі, Нігерыі, Самалі, Танзаніі, Эфіопіі. Яны пазнаёміліся з выдатнымі мясцінамі беларускай сталіцы, наведалі прамысловыя прадпрыемствы, культурна-асветныя ўстановы. Афрыканскія госці сустрэліся з работнікамі Беларускага рэспубліканскага савета прафсаюзаў.

### ФЕСТЫВАЛЬ

У Гомелі адбыўся фестываль беларускага прафесіянальнага мастацтва, прысвечаны 50-годдзю БССР і Кампартыі Беларусі. Афіцыйнае адкрыццё фестывалю адбылося ў Палацы культуры чыгуначнікаў. Вечар адкрыў сакратар мясцовага абкома КПБ **Г. Жданко.** Са словамі падзякі гамяльчанам выступіў міністр культуры БССР **М. Мінковіч,** і аб'явіў фестываль адкрытым.

Выступіла Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла БССР, артысты групы беларускага спевака **Віктара Вуячыча,** эстраднае рэвю «Лявоніха на арбіце», слынная **Тамара Ніжнікава** і шмат іншых калектываў.

Фестывальныя канцэрты адбыліся ў многіх мясцовасцях Гомельшчыны

### СПАБОРНІЦТВА

Па выніках рэспубліканскага спаборніцтва за І квартал пераходны Чырвоны сцяг Савета Міністраў БССР і Беларускага савета прафсаюзаў прысуджаны сельскім будаўнікам мазырскага «Мазырсельбуда», пераходны Чырвоны сцяг Міністэрства сельскага будаўніцтва БССР і БРК прафсаюза — калектыву брэсцкага «Брэстсельбуда».

(С. Я.)

## ПОЛЬШЧА

### ДЗЕНЬ ПЕРАМОГІ

Уся Польшча ўрачыста адзначала 23 гадавіну разгрому гітлерызму, гадавіну перамогі — 9 мая. Ва ўсёй краіне адбыліся шматлікія ўрачыстасці і маніфестацыі, у якіх прынялі масавы ўдзел жыхары паасобных раёнаў. Асабліва ўрачыстыя мітынгі адбыліся ў Калабжэгу, Шчэціне, Згажэльцу і Слубіцах — у сувязі з заканчэннем у гэтых гарадах эстафет перамогі. Трасы іх вялі шляхам баёў праведзеных з гітлераўскім акупантам партызанамі і салдатамі рэгулярных адзінак Войска Польскага. У вялікім антываенным мітынгу ў Згажэльцу прыняло ўдзел звыш 10 тысяч асоб. З прамовамі выступілі: член Палітбюро Цэнтральнага Камітэта партыі І. Лёга-Савінскі і намеснік міністра Нацыянальнай абароны Г. Карчынскі. Прысутнічаючы на мітынгу прадстаўнік Паўночнай групы Савецкай Арміі палкоўнік Ул. Маякоў пераказаў прывітанні ад салдат і, афіцэраў Савецкай Арміі. Ва ўрачыстасці ў Шчэціне прыняў, між іншым, удзел міністр Нацыянальнай абароны генерал дыв. В. Ярузэльскі, у Калабжэгу — намеснік прэм'ера П Ярашэвіч, у Слубіцах — член Рады Дзяржавы Ю. Озга-Міхальскі.

### У ІМЯ ДРУЖБЫ І ЕДНАСЦІ

З нагоды 23 гадавіны перамогі над фашызмам і нацыянальнага свята Сацыялістычнай Рэспублікі Чэхаславакіі ў Чэшскім Цешыне адбыўся мітынг камуністаў і людзей працы паўночнамараўскай акругі з удзелам дэлегацыі жыхараў Катавіцкага ваяводства. Абодва гэтыя высокапрамысловыя раёны Польшчы і Чэхаславакіі спалучаюць ад шэрагу гадоў вузы цеснага супрацоўніцтва і дружбы. Падчас урачыстасці з прамовамі выступілі: сакратар Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Чэхаславакіі Алёйс Індра і член Палітбюро ЦК Польскай аб'яднанай рабочай партыі Эдвард Герэк. Прамоўцы падкрэслілі глыбокія традыцыі польска-чэхаславацкай дружбы і непарушымую еднасць краін сацыялістычнага лагеру. Сабраныя на мітынгу аднагалосна прынялі рэзалюцыю, у якой сцвярджаецца неабходнасць цеснага саюза ўсіх сацыялістычных краін, а перш за ўсё саюза з СССР, для супрацьдзеяння пагрозе вайны ў Еўропе, якая ўзнікае з боку сіл імперыялізму.

### ШТУТГОФ

12 мая ў мясцовасці Штутова Гданьскага ваяводства адбыўся аграмадны мітынг з нагоды 23 гадавіны вызвалення гітлераўскага канцэнтрацыйнага лагера Штутгоф і адкрыцця помніка «Барацьбы і пакутніцтва». З прамовою выступіў член Палітбюро партыі Зэнан Клішка. Прамоўца ахарактарызаваў палітыку злачынстваў акупанта на тэрыторыі Польшчы, сцвярджаючы, што польскі народ зрабіў са свайго мінулага належныя вывады. «Толькі як сацыялістычная дзяржава, — сцвердзіў З. Клішка, — Польшча можа існаваць незалежнай, можа развіваць нацыянальную гаспадарку і культуру і забяспечваць штораз лепшыя ўмовы жыцця народа».

(п)

## ВАЯВОДСТВА

### СВЯТА КУЛЬТУРЫ

Штогод у месяцы маі дзеячы культуры адзначаюць сваё свята. Ваяводскія ўрачыстасці з гэтай нагоды адбыліся 13 мая ў беластоцкім Клубе міжнароднай прэсы і кніжкі. Урачыста правялі сваё свята таксама дзеячы культуры з Гайнаўкі, Лап, Кольна, Сувалак і Монек.

### ДЗЕНЬ ПЕРАМОГІ

Грамадскасць Беласточчыны ўрачыста адзначыла 23-цюю гадавіну перамогі над фашысцкай Германіяй. З гэтай нагоды ў беластоцкім парку ля Помніка ўдзячнасці савецкім воінам адбыўся мітынг жыхараў горада. У мітынгу гэтым прыняў удзел І сакратар камітэта ПАРП тав. А. Лашэвіч. Прадстаўнікі рабочых калектываў, грамадскіх арганізацый, вучні і гарцэры паклалі вянкі і букеты кветак ля помніка. З прамовай выступіў камандзір Падляшскай ваеннай часці войска ўнутранай абароны, дыпламаваны палкоўнік Станіслаў Концік.

### ГАРЦЭРСКІ АЛЕРТ У БЕЛЬСКУ

Звыш 600 гарцэраў з Бельска Падляшскага сабралася ў сераду 8 мая ля Помніка ахвярам гітлераўскага тэрору ў Піліках. На брацкіх магілах гарцэры паклалі вянкі і букеты кветак, затым у самым Бельску адбыўся мітынг з нагоды Дня перамогі.

### ГРАМАДСКІЯ ЧЫНЫ ГАЙНАЎШЧЫНЫ

Павятовы Камітэт ПАРП у Гайнаўцы нядаўна абмеркаваў справу грамадскіх чынаў у Гайнаўскім павеце. Аказваецца, што вартасць працы, якую грамадзяне Гайнаўшыны выканалі грамадскім чынам, толькі ў 1961—1965 гадах ацэньваецца на суму ў 45 мільёнаў злотых. Грамадскім чынам на Гайнаўшчыне пабудавана: 29 кіламетраў цвёрдых і 67 кіламетраў жвіраваных дарог, 97 вясковых крамаў, 7 супрацьпажарных раміз і вясковых святліц. Асабліва багата грамадскімі чынамі Гайнаўшчына адзначыла 1000-годдзе Польскай Дзяржавы. Вартасць грамадскага чыну за 1966 год ацэньваецца на амаль 12 мільёнаў злотых, а вартасць прадукцыйных абавязацельстваў — на 6 мільёнаў зл. Да найбольш актыўных залічваюцца жыхары грамад: Дубічы Царкоўныя, Кляшчэлі і Палічна.

### СУПРАЦОЎНІЦТВА

Сакольскія суддзі і адвакаты наладзілі цеснае супрацоўніцтва з павятовым аддзелам Саюза барацьбітоў за свабоду і дэмакратыю. Праўнікі абавязаліся бясплатна весці парады для «збавідаўцаў».

### ПАСАДКА ЛЕСУ

250 членаў Саюза сацыялістычнай моладзі з Беластоцкага павета разам з маладымі рабочымі з металаапрацоўчай фабрыкі ў Чорнай Беластоцкай, прадпрыемства ваўнянай прамысловасці ў Васількове, вучнямі мастацкага ліцэя ў Супраслі і агульнаадукацыйнага ліцэя ў Міхалове працавіта правялі апошнюю нядзелю. Яны садзілі і ачышчалі лес у наваколлі Валіл і Супрасля. Гэтым чынам уключыліся ў агульнакраёвую акцыю прадукцыйных абавязацельстваў у гонар V з'езда ПАРП.

(вр)




**Niedziela 19.V.**

9.00 Program dnia. 9.05 TV Kurs Rolniczy: ,,Uprawa gleby w sadach' 9.40 ,,Przypominamy, radzimy''. 10.00 Dla młodych widzów: ,,Sport i zabawa'' (Halle). 11.00 PKF. 11.10 ,,Szeleszczą kartki'' film radz. 11.40 Gra Orkiestra TV w Katowicach pod dyr. I. Wikarka. 12.00 Dziennik. 12.10 ,,Rycerz bez zbroi'' — film fab. bułg. 13.25 ,,Przemiany''. 13.55 ,,Przygody trzech muszkieterów'' — film. 14.20 Teatrzyk dla Przedszkolaków: A. Chodorowska — ,,Mapiszonek''. 15.00 ,,Stolica nad Dnieprem'' — rep. film. 15.35 ,,Mars i Flora'' — widowisko muzyczne. 16.05 ,,150 lat Ogrodu Botanicznego'' (,,Kamera 68''). 16.15 ,,Nowy pracownik'' — film pol. 16.35 ,,Kuźnia nad potokiem'' (,,Ludzie i zdarzenia''). 16.45 ,,Spotkanie z pisarzem'' — Jerzy Brodzkiewicz. 17.15 Niedzielny Teatr TV: C. Marais i C. d'Aguili — ,,Bezsenna noc Alfreda de Musset''. 18.00 ,,Architektura na znaczku pocztowym'' (,,Piórkiem i węglem''). 18.20 ,,Piosenki Delmeta'' — program rozrywkowy. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Kocham Luizę'' — film fab. USA. 21.35 Niedziela Sprotowa.

**Poniedziałek, 20.V.**

15.40 Program dnia. 15.45 i 22.40 Politechnika TV II roku. Elektrotechnika. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: ,,Kino Ptyś''. 17.15 ,,Na zdrowie''. 17.45 XXI Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia X etapu na trasie Karvina — Katowice. 18.20 ,,Eureka''. 18.50 ,,Próby''. 19.20 ,,Dobranoc'' 19.30 Dziennik. 20.10 Kino Krótkich Filmów. 20.40 Teatr TV: F. Garcia Lorca — ,,Yerma''. ok. 22.05 Dziennik. 22.15 Kronika Wyścigu Pokoju.

**Wtorek, 21.V.**

9.55 Dla szkół (kl. lic.) Język polski: F. Schiller ,,Zbójcy''. 10.35 ,,Męski piknik'' — film fab. jug. 12.10 Przerwa. 12.30 i 15.10 Przysposobienie Rolnicze: ,,Typy użytkowe oraz hodowla trzody chlewnej''. 15.05 Program dnia. 15.45 i 22.45 Politechnika TV II roku. Fizyka. 16.55 Dziennik. 17.10 XXI Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia XI etapu na trasie Katowice — Kraków. 18.00 ,,Nie tylko dla pań''. 18.20 TV Kurier Warszawski. 18.35 ,,Po szóstej''. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Giełda piosenki''. 20.35 ,,Męski piknik'' — film fab. jug. 22.10 Dziennik. 22.25 Kronika Wyścigu Pokoju.

**Sroda, 22.V.**

10.00 ,,Pod wpływem chwili'' — film (Dr Finley''). 10.55 Dla szkół (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie: ,,O.N.Z.''. 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. VIII) Fizyka: ,,Elementy radiotechniki''. 12.25 Przerwa. 13.25 ,,Matematyka w szkole''. 14.00 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 22.45 Politechnika TV I roku. Matematyka. 16.50 Dziennik. 17.05 XXI Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia XII etapu na trasie Kraków — Rzeszów. 17.55 PKF. 18.05 ,,Telekram''. 18.15 Wszechnica TV: ,,Telewizja satelitarna'' (,,Człowiek i kosmos''). 18.45 ,,Sylwetki X Muzy''. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Pod wpływem chwili'' — film (,,Dr Finley''). 20.55 ,,Swiatowid''. 21.25 ,,Przegląd muzyczny''. 22.10 Dziennik. 22.35 Kronika Wyścigu Pokoju.

**Cwartek, 23.V.**

9.55 Dla szkół (kl. lic.) Język polski: ,,Spór klasyków z romantykami''. 10.25 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 23.00 Politechnika TV II roku. Wytrzymałość materiałów. 16.55 Dziennik. 17.10 XXI Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia XIII etapu na trasie Rzeszów — Lublin. 17.45 Dla młodych widzów: ,,Ekran z bratkiem''. 18.25 ,,My mówimy po francusku'' — film Tele-Aru (,,Z kamerą po świecie''). 18.40 ,,Jazz w Filharmonii''. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Horyzonty''. 20.35 ,,Gdy miasto śpi'' — film fab. USA. 21.55 ,,Refleksje''. 22.25 Dziennik. 22.40 Kronika Wyścigu Pokoju.

**Piątek, 24.V.**

10.30 ,,Ulica Willowa'' — film fab. węg. 11.55 Dla szkół (kl. V) Wychowanie plastyczne: ,,Fotografika''. 12.25 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 23.10 Politechnika TV I roku. Fizyka. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: ,,Miś z okienka''. 17.20 XXI Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z XIV etapu na trasie Puławy — Radom (filmowe) oraz transmisja z zakończenia XV i ostatniego etapu Wyścigu w Warszawie. 18.30 TV Kurier Mazowiecki. 18.50 ,,Stocznia'' — reportaż. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Czwarta zmiana''. 20.40 Teatr TV: M. Cervantes de Saevedra — ,,Don Kichot''. ok. 22.00 ,,10 minut recenzji''. 22.10 ,,LOT — dziś i jutro''. 22.40 Dziennik. 22.55 Kronika Wyścigu Pokoju.

**Sobota, 25.V.**

10.00 ,,Człowiek bez jutra'' — film fab. wł. 11.20 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. VII) Zoologia: ,,Ssaki''. 12.25 Przerwa. 12.45 Dla szkół (kl. VIII) Geografia: ,,Proces urganizacji Polski''. 13.15 Przerwa. 15.35 Program dnia. 15.40 TV Kurs Rolniczy: ,,Nawożenie roślin owocowych''. 16.15 ,,Wychowanie fizyczne naszych dzieci''. 16.25 Program Tygodnia. 16.50 Dziennik. 17.00 Dla młodych widzów: ,,Szósty trójmecz harcerski''. 18.00 ,,W przestworzach'' czyli ciekawe opowieści lotników. 18.15 ,,Spotkanie z przyrodą''. 18.40 ,,Tele-Echo''. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 ,,Monitor''. 20.10 ,,Przeraźliwe łoże'' — film TVP (,,Opowieści niezwykłe''). 21.00 ,,Rewia Polskich Nagrań''. 22.00 Dziennik. 22.15 Wiadomości sportowe. 22.25 ,,Człowiek bez jutra'' — film fab. wł.




**Piątek, 17 maja**

15.35 Nowości. 15.40 Program dnia. 15.45 ,,Poezja współczesna'' 16.30 Dla uczniów. 16.50 ,,5+2''. 17.20 Śpiewa M. Pysłaru 17.40 Podróże TV. 18.30 Sztafeta nowości. 19.30 Twórczość młodych kompozytorów białoruskich. 20.05 ,,Rocznica Układu Warszawskiego''. 21.05 Tylko fakty. 21.15 Na dobranoc.

**Sobota, 18 maja**

6.55 Program dnia. 7.00 Gimnastyka. 7.45 Dziennik. 8.00 Program muzyczny. 8.30 Dla studentów. 10.30 Dla uczniów szkół technicznych. 11.30 Zespół ,,Bachor''. 12.20 ,,Dzieci wielkiej rodziny''. 12.45 Kiosk muzyczny. 13.15 ,,Białoruś literacka''. 14.15 Dziennik. 14.30 TV barwna. 16.00 Klub filmowy. 17.00 Koncert. 18.00 ,,Czas''. 18.30 ,,Cienie nad Notre Dame''. Film. I seria. 20.05 Program na jutro. 20.10 ,,Cienie nad Notre Dame''. Film. II seria. 21.55 Szkatułka Muzyczna.

**Niedziela, 19 maja**

6.55 Program dnia. 7.00 Gimnastyka. 7.15 ,,Budzik''. 7.45 Dziennik. 8.05 ,,Słuchaj nas, Ojczyzno''. 8.45 Reportaż z Placu Czerwonego poświęcony obchodom powstania organizacji pionierskiej. 10.00 Dla uczniów. 11.00 ,,Białe i czarne''. 11.30 Dla uczniów. 13.00 ,,My i nasz wolny czas''. 14.00 Dla żołnierzy. 14.30 TV barwna. 16.00 Dla uczniów. 16.25 Film animowany dla dzieci. 17.00 Koncert. 18.15 ,,Siedem dni''. 19.00 ,,Cudzy dokument''. Film. 20.30 ,,Wieczorne spotkania''. Program muzyczny. 21.30 Tylko fakty.

# ПРА ТЫХ, ШТО ПАМЫЛЯЛІСЯ

Аказваецца, нават найбольш здольныя людзі не могуць усяго зразумець. Пачнем ад самога Напалеона. Аднаго разу папрасіўся да яго нейкі Фултан, які, ведаючы аб намерах Напалеона адносна высадкі дэсанта ў Англіі, запрапанаваў пабудаваць карабель-паравік, што значна прыспяшыла б аператыўнасць войскаў.

— Ён хоча пераканаць мяне, што караблі могуць плысці пры дапамозе кіпеню! — закрычаў Напалеон. Хто ведае, чым закончылася б вайна, калі б Напалеон паверыў Фултану.

Іншы прыклад: у 1837 годзе, калі ў Францыі пабудавана першую чыгуначную лінію, ніхто з, так званых, сур'ёзных людзей таго часу не лічыў чыгунку за прадвесніцу новых часоў. Патрактавана ўсё, бы цацку дзецям.

А слаўны вынаходца электрычнай лямпачкі Эдысан, калі даведаўся пра першы палёт апарата цяжэйшага ад паветра, сказаў, што адзіным сэнсам гэтай канструкцыі будзе развясельванне багатых людзей. Яшчэ ў 1921 годзе на міжнародным авіяцыйным з'ездзе ў Лондане гаварылася, што паветраная міжнародная пасажырская камунікацыя, скажам, паміж Лонданам і Бамбаем з'яўляецца чыстай фантазіяй і неразумнай выдумкай.

У 1861 годзе адна з амерыканскіх газет паведамляла, што ў Нью-Йорку арыштавана нейкага чалавека ва ўзросце 46 год, які назваў сябе Яшам Каперснітам. Гэты чалавек пробваў нагаварваць цёмных і забабонных людзей, каб далі грошы на будову апарата, пры дапамозе якога можна будзе перасылаць людскі голас па дратах на вялікія адлегласці. Апарат свой гэты чалавек называе «тэлефонам». Далей газета запэўніла сваіх чытачоў, што спецыялісты лічаць немагчымым, каб можна было перасылаць па дратах людскі голас.

Іншы амерыканскі вынаходца, Лі дэ Форэст, які сканструяваў першую радыёлямпу, меў вельмі многа прыкрасцей. Пракурор загадаў арыштаваць Лі дэ Форэста і яго сяброў... за ашуканствы. Справа ў тым, што гэты вынаходца заявіў публічна, што ў недалёкім часе будзе магчыма перасылаць чалавечы голас цераз Атлантыку, аж у Еўропу. Не прайшло і дзесяці год ад арышту Форэста, калі пачалася масавая прадукцыя радыёпрыёмнікаў.

Аднаго ранку ў снежні 1879 года ў пакой галоўнага рэдактара вядомай нью-йоркскай газеты «Нью-Йорк Гералд» уляцеў проста несамавіта разгневаны выдаўца гэтай газеты і трасучы куламі рэдактару пад носам, крычаў:

— Як мог прайсці такі артыкул!? Святло мае быць праведзенае па дратах! Пан асмяшыў нашу газету!! Ці пан ведае, што даказана без ніякіх сумненняў, што такога роду святло немагчымае!

Праз дзесяць дзён пасля жыхары Нью-Йорка масава наведвалі недалёкую мясцовасць Менла Пэрк, каб пабачыць дзіўны яркі бляск ад першых лямпачак, зробленых у лабараторыі геніяльнага Эдысана.

Сто год таму назад, у 1866 годзе адзін амерыканец сказаў:

— Няшмат вынаходцаў трэба спадзявацца ў бліжэйшай будучыні, бо ўсё, што можна было адкрыць, адкрыта.

Некаторыя і цяпер так філасофствуюць па вечарах, не маючы чаго лепшага да работы. Але той амерыканец не павінен быў так гаварыць, бо быў ім сам генеральны камісар Патэнтавага Бюро Злучаных Штатаў Паўночнай Амерыкі. (ся)

НАВІНКІ ТЭХНІКІ



## ЛЯСНЫ ТРАКТАР

У гэтым годзе Кішынёўскі трактарны завод распачне прадукцыю новага тыпу трактара Т-54Л (на здымку), прыстасаванага да лясных работ. Трактар перш за ўсё будзе служыць да саджэння, культывавання і апырсківання саджанцаў. Трактар Т-54Л можна будзе таксама выкарыстоўваць пры гашэнні лясных пажараў.

Новы трактар абяспечана маторам магутнасцю 50 конскіх сіл.

(А-ка)

## „ХАЛОДНЫ“ АСФАЛЬТ

Як вядома асфальціроўшчыкі пры ўсім велізарным аб'ёме работ, якія ім трэба выконваць, могуць працаваць толькі ў зусім сухое надвор'е. Справа ў тым, што асфальт, пакладзены на мокрую аснову, не «счэпіцца» з ёй, хутка адстане, і дарогу давядзецца рамантаваць.

Югаслаўскія хімікі распрацавалі эмульсію, з дапамогай якой створан асфальт з зусім новымі ўласцівасцямі. Па-першае, яго не трэба разаграваць перад укладкай, па-другое, яго можна класці на мокрую аснову, а, па-трэцяе, ён надзвычай хутка цвярдзее. Як толькі новы асфальт паклалі і прыкаталі каткамі, адразу ж можна пачынаць па ім рух.

## Ці ведаеш, што...

...Самаму старажытнаму ў свеце парусному судну 400 гадоў. Яно было знойдзена ўнутры пірамiды Хеопса.

...Самы старажытны закон аб ахове жывёлы быў выдадзен звыш 3000 гадоў назад.

...Самая вялікая ў свеце пяшчэра размешчана непадалёку ад Грэнобля (Францыя). Яе глыбіня — 1122 метры.

Мала, але цікава

## Чаму жанчыны жывуць даўжэй?

Сярод мноства тэорый і прычын на гэтую тэму, адну сёння падаем за вучонымі французскімі і савецкімі. Прычына — алкаголь, якога больш п'юць мужчыны чым жанчыны і таму хутчэй паміраюць. Алкаголь нішчыць арганізм чалавека і нават моцнага мужчыны. Калі мужчыны перастануць піць, будуць жыць так доўга, як жанчыны. (вл)




### МАЦІ-І-МАЧЫХА

Маці-і-мачыха — адна з першых раслін, што зацвітае вясной. Залаціста-жоўтыя пушыстыя кветкі на кароткіх тоўстых сцяблінках з'явіліся ўжо на схілах яроў, на берагах рэк і ручаёў. Ніжні бок яе лісцяў белы, у доўгіх валасках, мяккі і цёплы, як маці, а верхні — зялёны, цвёрды і халодны, як мачыха. Адсюль і пайшла назва расліны.

У народнай медыцыне кветкі і лісты маці-і-мачыхі здаўна выкарыстоўвалі пры запаленні лёгкіх, працяглым кашлі, бранхіце. Збіраюць кветкавыя карзінкі ў час пачатку цвіцення. Кветкі сушаць на паветры, расклаўшы на паліцы. Высушаныя кветкі і лісты павінны захоўваць свой колер.

Лісты маці-і-мачыхі збіраюць у чэрвені, калі яны не выраслі да вялікіх памераў. Свежыя прамытыя лісты і цукар складаюць слаямі ў посуд, шчыльна закупорваюць і закопваюць у зямлю. Калі ўсё гэта ператворыцца ў аднародную масу, на адзін кілаграм яе дабаўляюць 0,5 кілаграма мёду і ўжываюць па адной сталовай лыжцы тры разы ў дзень пры туберкулёзе, дзіцячай эпілепсіі, жаночых хваробах. У сучаснай медыцыне прэпараты з маці-і-мачыхі ўжываюць як добры змякчальны сродак.

## Беларуская ССР у фотааб'ектыве

Гордасцю жыхароў вёскі Падлесся з'яўляецца яго хор — адзін з найстарэйшых у Беларусі. Таленавіты калектыў, некалькі разоў выязджаў на гастролі ў Мінск і Маскву. Зараз у ім удзельнічае звыш 50-ці асоб. У 1965 годзе яму прысвоена званне Народнага хору.



**На здымку: Былы кіраўнік хору Народны артыст БССР Г. Цітовіч (у цэнтры) часты госць у самадзейных артыстаў вёскі Падлесся.**




Карцаў адкрыў вочы ў ложку. Побач стаяў Глюк і карміў яго з лыжачкі мясным бульёнам. Кубак хутка апусцеў.

— Больш нельга, — сказаў Глюк. — Можаш здохнуць, калі абжарэшся.

І ён выйшаў, замкнуўшы за сабою дзверы.

Абст пакуль не з'яўляўся.

Тройчы ў суткі Глюк прыносіць яму ежу, кофе. Амаль не размаўляе. Задаў некалькі пытанняў: узрост, прафесія, ці доўга быў у вадзе...

На чацвёрты дзень прабывання Карцава ў гроце, Глюк вывеў яго з пячоры. За дзвярыма іх чакаў радыст.

І вось яны ідуць вузкім калідорам. Лямпачкі, падвешаныя на ўбітых у скалу кручках, ледзь свецяцца.

Суправаджаючыя спыняюцца ля авальных дзвярэй. Глюк цягне за жалезную клямку. Дзверы адчыняюцца.

Вялікая пячора. Пасярод яе стол, каля якога некалькі табурэтаў. Да стала падыходзіць Абст. Ён выйшаў недзе збоку, кіўком паказаў Карцаву на табурэт, сеў сам.

За плячыма палоннага бразгнулі дзверы: канваіры выйшлі.

— Ну, — гаворыць Абст, — аглядаючы Карцава, — як чуецеся?

— Дзякую, добра.

— Колькі вам год?

— Дваццаць дзевяць.

— Дваццаць дзевяць, — паўтарае Абст. — Выглядаеце на куды старэйшага. Шмат перажылі?

— Я б хацеў спытаць... — Карцаў з цікавасцю аглядае пячору. — Дзе я знаходжуся?

— Вы ў сяброў. — Абст прастадушна ўсміхаецца.

— Гэта я разумею. Але хто мяне выратаваў?.. Што гэта за грот?

— Хутка даведаецеся. А пакуль пытаю я. Вы лекар?

— Я неўрапатолаг.

— І вы немец?

— Так, я немец.

— Як вы называецеся?

Рыхтуючыся да гутаркі, Карцаў вырашыў, што возьме прозвішча і імя свайго школьнага сябра.

Ён адказвае:

— Ханс Рэйхельт.

— Дзе вы жылі ў Германіі?

— На жаль, я не жыў у Германіі.

— Значыць, вы немец, але жылі за граніцай?

— Так.

— Эмігрант?

— Сын эмігранта.

— Добра. Назавіце краіну, якая стала вам другой радзімай.

— Я з Расіі.

— З Расіі? Нават нарадзіліся там?

Карцаў ківае.

— Раскажыце, як вы тут апынуліся?

Карцаў пачынае расказваць. Ён называе горад на Каспію, дзе нарадзіўся і вырас, адрас школьнага таварыша, прыводзіць падрабязнасці яго біяграфіі. Гэта дакладныя звесткі. Калі Абст мае магчымасць праверыць іх, за вынік можна быць спакойным.

Абст слухае не спыняючы.

Карцаў расказвае як чатыры месяцы таму яго мабілізавалі і накіравалі ў Мурманск. Як адтуль трапіў у канвой. Як потым у моры іх тарпедавалі. Як выратаваўся цудам.

Карцаў разумее, што Абст яму не верыць. Але ён і не чакаў іншага.

— Пачакайце, — гаворыць Абст. — Што ж, караблі канвоя не падбіралі людзей з тарпедаваных суднаў?

— Не ведаю. Там такое тварылася!

— Як жа вы выратаваліся?

— На мне быў надзьмуты жылет.

— Дзе гэта здарылася?

— У Барэнцавым моры.

— А вы ўяўляеце, дзе вы цяпер знаходзіцеся?

— Больш-менш, так.

— Шлях з Барэнцава мора да нас вы пераадолелі на сваім надзьмутым жылеце?

Карцаў усміхаецца на жарт Абста.

— Гэты шлях я пераадолеў на борце судна, якое выратавала мяне. Гэта было брытанскае госпітальнае судна.

— Як вы зноў апынуліся ў вадзе?

— Гэтае судна таксама тарпедавалі.

— Тарпедавалі госпітальнае судна?

— Так, і не так далёка адсюль.

— Нямецкія падводнікі патапілі госпітальнае судна?

— Я не сказаў, што тарпеды былі нямецкія. Я іх не бачыў. Але праз чвэрць гадзіны, калі я валтузіўся ў вадзе, з'явіўся самалёт. Непадалёку ад мяне ён скінуў у мора бомбы. Каго ён бамбіў? Відаць, падводную лодку.

— Чый самалёт?

— Не ведаю. Мне было не да яго. Я быў заняты тым, што падтрымліваў аглушанага ўзрывам чалавека. На

